Інфармацыйны бюлетэнь

БАРМІЦА

11 – 20 чэрвеня 2008 г.

бясплатна

# Движение «За свободу» получило отказ в регистрации



Как сообщил БелаПАН заместитель руководителя движения Юрий Губаревич, Минюст посчитал, что деятельность объединения не будет соответствовать заявленным в уставе целям.

Сергей КОРОЛЕВИЧ, «Белорусские новости»

«В письме, полученном 19 июня, чиновник министерства анализирует выступления и публичные заявления Александра Милинкевича и других представителей движения. В итоге он приходит к выводу, что реальные цели создания и деятельности объединения не соответствуют заявленным в уставе. Реальными называются политические, а не правозащитные цели создания движения. А реальные цели, считают они, не соответствуют требованиям законодательства», — отметил Юрий Губаревич.

Губаревич не понимает, как «министерство может определять цели еще не созданной организации и оценивать ее деятельность в будущем». «Своими попытками пройти официальную регистрацию мы демонстрируем желание работать в правовом поле. Если государство считает, что граждане не должны в нем находится, это его проблемы», — сказал он.

Заместитель руководителя движения сообщил, что решение Министерства юстиции будет обжаловано в Верховном суде. В случае если решение министерства будет оставлено в силе, возможна четвертая попытка регистрации движения «За Свободу».

23 апреля Министерство юстиции Беларуси отложило регистрацию правозащитного общественного объединения «Движение «За Свободу» в связи с претензиями к графическому оформлению логотипа объединения, а также несоответствием платформы движения, размещенной на сайте Александра Милинкевича, представленному для регистрации уставу.

Это была третья попытка зарегистрировать организацию. До этого дважды — в июле и октябре 2007 года — Минюст отказывал в регистрации движения. Официальными причинами были претензии к формулировкам устава, а также тот факт, что одна из учредительных конференций объединения проводилась с нарушениями закона «О массовых мероприятиях в Республике Беларусь». Оргкомитет пытался опротестовать решения Минюста в Верховном суде, но безрезультатно.

# Каго вы лічыце самай значнай фігурай беларускай гісторыі?



**Артур КЛІНАЎ, пісьменнік, выдавец часопіса «пARTызан»:**

— Вылучыць кагосьці аднаго амаль немагчыма, таму што кожная эпоха і кожная сфера жыцця мае не адну выбітную асобу. Для мяне асабіста, калі казаць пра гісторыю менавіта Беларусі, а не княства Літоўскага, самай значнай з'яўляецца постаць Івана Луцкевіча. Ён быў адной з тых культавых асоб, дзякуючы каму стала магчымым абвяшчэнне назалежнасці Беларусі ў 1918 годзе. Без гэтага не было б ні БССР у складзе Савецкага Саюза, ні нашай сённяшняй незалежнасці.

**Анастасія ЦЫМАНОВІЧ, прэс-сакратар Вярхоўнага суда:**

— Еўфрасіння Полацкая.

**Юрый ГІЛЬДЗЮК, мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі:**

— Першым чынам гэта пясняр Беларусі Янка Купала, наш першадрукар Францыск Скарына, найярчэйшыя прадстаўнікі нашай літаратуры Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў. З кампазітараў магу вылучыць Яўгена Глебава і Анатоля Багатырова, сярод дырыжораў — Юрыя Яфімава, Віктара Дуброўскага.

**Вера ПАШКОЎСКАЯ, гаспадыня атэлье «Андарак»:**

— Францыск Скарына.

**Кірыл ВАЛОШЫН, намеснік дырэктара УП «Надежные программы»:**

— Тут не фігура, а цэлая каманда — беларускіх баскетбалістак, якія летась ускалыхнулі наш спорт сваім трэцім месцам на міжнародным турніры, а ў гэтым перамаглі бразільскую каманду, падарыўшы аматарам спорту надзею на магчымы прыз на Алімпіядзе.

А калі сур'ёзна, я мог бы вылучыць Марка Шагала, мастака і паэта з беларускімі каранямі, які стаў адным з найвялікшых прадстаўнікоў авангарду XX стагоддзя.

**Антаніна ГУБІЧ, кіраўнік прэс-цэнтра Канстытуцыйнага суда:**

— Калі гаварыць пра асветнікаў, то я бы назвала Францыска Скарыну і Еўфрасінню Полацкую. Трэба ўспомніць і песняроў беларускай зямлі Янку Купалу і Якуба Коласа. А што тычыцца сучаснай гісторыі, то нельга забыцца пра асобу Пятра Машэрава і цяперашняга нашага кіраўніка дзяржавы.

**Анатоль ПАЎЛАЎ, былы прарэктар БДУ:**

— Кірыл Мазураў. Калі Хрушчоў пачаў знішчаць хатнюю скаціну, Мазураву хапіла мудрасці і мужнасці супрацьстаяць гэтаму. У той час гэта быў вельмі сур'ёзны крок. Дзякуючы яму наша рэспубліка ў СССР была адной з самых сытых. Нельга не ўспомніць Пятра Машэрава, які быў саюзнікам Мазурава. У іх час наша рэспубліка развівалася. І вельмі шкада, што, калі Савецкі Саюз развальваўся, у нас на чале партыі не было людзей маштабу Мазурава або Машэрава.

Народная Воля

# Шлях да незалежнасці



Хацеў бы, каб шаноўныя чытачы без сумненняў паверылі тым лічбам, якія даследчыкі прадставілі нядаўна на суд грамадскасці. А лічбы гэтыя проста ашаламляльныя! Калі прызнацца, то, азнаёміўшыся з імі, я доўга не мог заснуць. Вы можаце ўявіць, што, паводле апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, 71 працэнт маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 29 гадоў лічаць, што паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў Беларусі з'яўляецца больш важным, чым захаванне яе незалежнасці. Прыехалі! Галоўнае — набіць жывот, а жыць можна, аказваецца, і ў рабстве, без свабоды. Сённяшнія ўлады проста працягваюць тую шкодную работу, якую вялі бальшавіцкія ідэалагічныя структуры, пачынаючы з 1917 года.

Вы чулі, каб нехта з уладных правадыроў казаў, што дабіцца павышэння дабрабыту мы зможам толькі тады, калі будзем сапраўды самастойнымі, калі будзем у першую чаргу разлічваць на сябе, а не спадзявацца на «добрага дзядзьку з Крамля»? Я такіх разважанняў не чуў. Наадварот, нам убіваюць у мазгі, што мы бедныя, у нас нічога няма, нам трэба «ў рот зазіраць» суседзям, тады, можа, нешта перападзе. Культывуецца рабская псіхалогія.

Я вось падумаў: а дзеля чаго цяперашнія беларускія ўлады ідуць на такое, можна сказаць, злачынства? З аднаго боку, яны як быццам за незалежнасць Беларусі, а з другога — генерыруюць пакаленні «саўкоў», манкуртаў, якія за скварку гатовы прадаць Радзіму. Можа японец на кожным скрыжаванні крычаць, што яго краіна бедная на карысныя выкапні, а таму лепш увайсці ў склад Расіі? Не, не і яшчэ раз не. Ці не таму Японія і стала адной з багацейшых дзяржаў, што яе народ на першае месца ставіць незалежнасць, а не тое, колькі радовішчаў вугалю ці жалезнай руды мае краіна? Калі чалавек жыве не ў рабстве, калі ён свабодны, то ў яго зусім па-іншаму працуюць мазгі, ён заўсёды знойдзе адказ на пытанне, як палепшыць сваё жыццё. А нашы ўлады, на жаль, гадуюць людзей, якія хутчэй будуць стаяць з працягнутай рукой, разлічваючы на дапамогу збоку, чым самастойна вырашаць свае праблемы.

Упэўнены: абыдлячванне моладзі — гэта не выпадковасць, гэта пазіцыя нашых улад. Усё, лічу, прадумана, спрагназавана. Выбрана такая эканамічна-гаспадарчая мадэль, якая ўсё больш і больш вядзе Беларусь да залежнасці ад Расіі. Калі гаварыць пра інвестыцыі, то чаму іх так мала з Заходняй Еўропы, Амерыкі? Для гэтага блока краін спецыяльна ствараюцца перашкоды, а вось для Расіі — самыя спрыяльныя ўмовы. Глядзіш, і мы, беларусы, апынёмся ў кіпцюрах адной суседкі. Прадаваць давядзецца апошняе — незалежнасць. Ці не да гэтага ўлады спакваля рыхтуюць маладое пакаленне?! Сёння, бачыце, 71 працэнт людзей ва ўзросце ад 18 да 29 гадоў лічыць паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне больш важным, чым захаванне незалежнасці. А што будзе праз тры, чатыры, пяць гадоў?..

Я асабіста ўражаны не толькі лічбамі, якія абнародаваў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), але і той маўклівай пазіцыяй, якую займаюць лідэры партый, рухаў, кіраўнікі розных грамадскіх суполак. Калі б падобная тэндэнцыя мела месца, скажам, у суседняй Польшчы, усе аб'ядналіся б дзеля аднаго — выратавання Радзімы ад магчымай згубы самастойнасці. А ў нас — мёртвая цішыня. І гэта ў той час, калі трэба біць ва ўсе званы…

Іван СІЛІВОНЧЫК, беларус, які не абыякавы да лёсу Радзімы.

# КДБ дбае пра беларускіх студэнтаў

Па заканчэнні майскіх святаў студэнт першага курса Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Алег Грубіч ехаў з Мінска на месца вучобы ў Вільнюс, але пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы высветлілася, што ён уключаны ў спісы невыязных. Па вяртанні ў Мінск да хлопца сталі праяўляць узмоцненую цікавасць супрацоўнікі КДБ.

Калі як мінімум чатыры дзяржаўных службоўцы марнуюць паўдня на тое, каб запалохаць маладога чалавека 22 гадоў, складваецца ўстойлівае адчуванне кафкіанскага абсурду.

Пасля таго, як у Алега ў цягніку Смаленск—Вільня памежнікі адабралі пашпарт і паставілі па-над штампам аб перасячэнні мяжы адзнаку «анулявана», ён паспрабаваў атрымаць тлумачэнні ў РУУС па месцы жыхарства. Там нічога не ведалі і перанакіравалі маладога чалавека ў АГІМ, супрацоўнікі якога даволі хутка выдалі даведку, што ў праславуты спіс ён патрапіў па лініі ваенкамата. У ваенкамаце Першамайскага раёна адна з супрацоўніц, паглядзеўшы матэрыялы асабістай справы, сказала, што яшчэ ў 2006 годзе супраць Алега была ўзбуджана крымінальная справа па факце ўхілення ад ваеннай службы. Справа ў тым, што раней Алег быў студэнтам Акадэміі мастацтваў, але пасля падзей сакавіка 2006 года быў адлічаны нібы за «акадэмічную непаспяховасць». Пасля гэтага ён вучыўся ў Польшчы, а ўлетку мінулага года паступіў у ЕГУ. Варта адзначыць, што ў Літве Алег стаў на вайсковы ўлік у Консуляце Рэспублікі Беларусь.

Аднак у ваенкамаце высветлілася некалькі цікавых падрабязнасцяў: улік у Консуляце па цяперашнім заканадаўстве ўжо не мае значэння, а адлічаныя з вышэйшых навучальных устаноў за акадэмічную непаспяховасць студэнты не могуць атрымаць адтэрміноўку, нават калі зноў вучацца на дзённым аддзяленні. Пасля абвяшчэння ўсіх гэтых правіл супрацоўніца ваенкамата тым не менш запэўніла, што адправіць паведамленне на выключэнне Алега са спісу невыязных. Акрамя таго, маладому чалавеку была ўручана позва з'явіцца на медыцынскі агляд 16 чэрвеня. Напрыканцы гутаркі гэтая ж супрацоўніца прамым тэкстам заявіла, што Алегам цікавяцца ў КДБ, і сказала прыйсці на наступны дзень, каб забраць даведку аб выключэнні са спісу.

На ганку ваенкамата Алега чакалі чатыры чалавекі: учарашняя супрацоўніца, хтосьці з ваенкаматнага кіраўніцтва і двое ў цывільным. Супрацоўніца сказала, што «прыйдзецца пагутарыць самі ведаеце з кім». Затым прапанаваў паказаць, дзе знаходзіцца медкамісія, аднак пасля адмовы Алега ісці куды б ні было, паклікаў двух прадстаўнікоў камітэта Дзяржбяспекі ў свой кабінет. Апошнія прадставіліся як супрацоўнікі Першамайскага аддзела КДБя. Ніякіх пасведчанняў, якія пацвярджаюць іх паўнамоцтвы, гэтыя людзі не прад'явілі.

Адначасова з гэтым супрацоўніца ваенкамата аддала знаёмай Алега, якая чакала ў калідоры, даведку аб выключэнні хлопца са спісу невыязных. Дадзенае паведамленне ўяўляе сабой паперку, на якой няма нават пячаткі. Ад гутаркі з супрацоўнікамі КДБ і Алег, і яго знаёмая адмовіліся. Пры гэтым людзі ў цывільным настойвалі на сваім праве «гутарыць для атрымання інфармацыі» з «любым чалавекам, у любым месцы», прапаноўваючы «праехаць з імі ў аддзяленне для выпісу афіцыйнай позвы», а пасля адмовы паабяцалі, што афіцыйную позву прынясуць «па месцы жыхарства на працягу паўгадзіны».

Хлопец лічыць, што насамрэч ваенкамат выкарыстоўваюць у якасці прыкрыцця: «За гэтыя дні ў галаве я перавярнуў безліч варыянтаў. Пачынаючы ад сітуацыі са Змітром Жалезнічэнкам, якому не далі аднавіцца ў ВНУ і адправілі ў войска, да таго, што мяне могуць абвінаваціць ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі. Кадэбэшнікі, з якімі я размаўляў у ваенкамаце, менавіта на гэта і цііснулі. Іх цікавіла мая культурніцкая дзейнасць — ад правядзення ў Вільні агульнанацыянальнай дыктоўкі да арганізацыі культурніцкіх канферэнцый. Толькі пры чым тут незарэгістраваныя арганізацыі, я зразумець не магу».

# Что делать с чеками «Имущество»?



Белорусская чековая приватизация тянется годы, но на руках населения большое количество чеков. Люди не знают, что с ними делать, так как акции предприятий, на которые можно их обменять, граждан не устраивают.

Мы поинтересовались, что люди думают по этому поводу, как они распорядились своими чеками. Вот что они ответили.

**Надежда Гусевич, экономист, Минский р-н:**

— Еще до введения моратория я успела перевести чеки «Имущество» в чеки «Жилье» и использовала их на приватизацию квартиры.

**Александр Ленев, мастер по ремонту телевизоров, г. Минск:**

— Жду постановление правительства о выплате компенсаций за неиспользованные чеки. А может, дадут нам возможность использовать их при покупке товаров? Но пока ничего не слышно.

**Олег Никитин, менеджер, г.Минск:**

— Чеки лежат дома, жду часа «Х». ОАО, акции которых можно приобрести за них, меня не устраивают, так что — подожду.

**Николай Чернец, финансист, г.Минск:**

— Вложил их в фонд (СИФ) для покупки акций ОАО «Недвижимость и финансы». Сейчас это все ликвидировано, и я пытаюсь вернуть их назад. Думаю, рано или поздно, но в Беларуси все же будут реализовываться чеки по рыночной цене.

**Ольга Линевич, дворник, г.Минск:**

— Лет пять назад продала чеки одному частнику по очень низкой цене и сейчас об этом не жалею. Сегодня ими никто не интересуется и не покупает даже за копейки…

**Вера Дубовец, доярка, Россонский р-н.:**

— Лежат без движения дома. Что с ними делать — ума не приложу, скорее всего выброшу. Вы говорите, что скоро их можно будет продать по хорошей цене? Сомневаюсь…

**Алла Тупаева, дворник, г.Минск:**

— Чеки отнесла на строительство православного храма, который строится возле моего дома. Их приняли, пусть это будет хоть маленькая частица моих пожертвований Богу…

Опрос провела Галина ЕФИМОВА

# Расходы увеличились

По информации Министерства статистики и анализа, в первом квартале 2008 года потребительские расходы в среднем на одну белорусскую семью увеличились на 30,3% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

В среднем белорусская семья в указанный период ежемесячно тратила на потребительские нужды 960,4 тыс. рублей. Из них 41,1% уходило на продукты питания (в первом квартале 2007 года — 40,5%), 2,3% — на алкоголь (2,2%), 33,3% — на непродовольственные товары (33,7%). На оплату услуг в среднем тратилось 23,3% всех потребительских расходов (23,6%). Из них на жилищно-коммунальные услуги — 8,9% (9,6%). При этом Минстат отмечает, что удельный вес населения со среднедушевым доходом до 150 тысяч рублей по стране составил 2,1%; от 150,1 до 300 тыс. — 22,8%; от 300,1 до 500 тыс. — 40,3%; от 500,1 до 700 тыс. — 19,9%; свыше 700 тыс. — 14,9%.



# Калі б я быў прэзідэнтам Вырашыў бы шэраг балючых праблем і падаў бы ў адстаўку



Распусціў бы сённяшні склад Цэнтральнай выбарчай камісіі. Ініцыяваў бы змяненне выбарчага заканадаўства з улікам умоў Еўрапейскага Саюза. Датэрміновае галасаванне павінна быць адменена. Выбарчым камісіям трэба весці падлік галасоў у прысутнасці назіральнікаў і не разыходзіцца, пакуль не будзе складзены і агучаны пратакол, не выдадзены завераныя яго копіі прадстаўнікам кандыдатаў у дэпутаты і СМІ.

Калі б я быў прэзідэнтам, то выдаў бы дэкрэт, у якім запісаў бы, што самым цяжкім злачынствам перад народам з'яўляецца фальсіфікацыя вынікаў выбараў, што парушальнікі выбарчага заканадаўства нясуць крымінальную адказнасць тэрмінам ад 5 гадоў да пажыццёвага зняволення.

Дзеля паляпшэння жыцця народа я разам з новым урадам і парламентам зрабіў бы рэзкае скарачэнне сілавых структур, кіруючых і кантралюючых устаноў, бюджэт першых паменшыў бы ў 2—3 разы, Адміністрацыі прэзідэнта — у 5—10 разоў, накіраваўшы гэтыя сродкі на навуку і культуру, павышэнне зарплат і пенсій, вяртанне льгот тым катэгорыям насельніцтва, якія маюць у гэтым вострую патрэбу, і паляпшэнне медабслугоўвання.

Змяніў бы дзяржаўныя сімвалы на гістарычныя - бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», даручыў бы стварыць камісію па распрацоўцы дзяржаўнага гімна, а часова гімнам прызнаў бы варыянт, які ў ходзе народнага апытання набраў больш галасоў, чым існуючы.

Аб'явіў бы нацыянальнай ідэяй вяртанне да роднай мовы, інакш у рэшце рэшт мы перастанем быць беларусамі, а нас зробяць «русскими». Абавязаў бы ўсіх чыноўнікаў ведаць і размаўляць на беларускай мове, дзеля чаго даў бы ім дастаткова часу і аказаў бы адпаведную дапамогу для яе вывучэння. Ніякіх забарон на ўжыванне рускай і іншых моў на бытавым узроўні не прымаў бы.

Калі б я быў прэзідэнтам, правёў бы рэферэндум аб выбары далейшага шляху развіцця краіны:

1.Саюзная дзяржава з Расіяй (канфедэрацыя).

2.Уступленне ў ЕС (без уступу ў НАТО).

Палову дзяржаўных СМІ зрабіў бы незалежнымі (у тым ліку два каналы тэлебачання). Галоўная задача СМІ — не рапарты аб дасягненнях (хоць і гэта трэба рабіць), а аб'ектыўнае інфармаванне грамадства, выкрыццё карупцыі і парушэнняў законаў.

Прызначыў бы камісію для выпрацоўкі новага заканадаўства па пенсійным забеспячэнні.

Пасля рэалізацыі гэтых задач выдаў бы дэкрэт аб вяртанні да парламенцкай рэспублікі і Канстытуцыі 1994 года, падзелу сваіх паўнамоцтваў паміж урадам і парламентам, падаў бы ў адстаўку і паехаў бы дахаты гадаваць унукаў.

Мікалай Аляксеевіч БОГДАН, пенсіянер, жыхар г.Гродна.

# Усё мяняецца, а рабства застаецца



Згадваю свае дзіцячыя падарожжы ў Мінск ці Магілёў — то з бацькамі, то з класам, з настаўнікамі. Атрымлівалася так, што замест любавання памятнымі мясцінамі дарослыя цэлы дзень мусілі вырашаць розныя ўласныя пытанні ў розных установах. Наш звычайны дзіцячы маршрут — з матулямі па бальніцах ці крамах, каб набыць хоць якую-небудзь вопратку падрастаючым акселератам. Ну, калі са школьнікамі, дык групамі паходзім па музеях «баявой славы» — і дамоў.

Перад самым ад'ездам дадому, нацягаўшыся за дзень, дарослыя забягалі ў краму — набыць гарадскога смачнага хлеба.

Пабываць мне давялося тады ў розных кутках Беларусі. А звычку набываць гарадскі хлеб яназіраў паўсюдна. Хоць зараз шмат хто і хваліць тыя часы (80-я гады), але жылі вяскоўцы бедна. Крамы былі амаль пустыя, а ў райцэнтры калі што і «выкідвалі», дык дастаць гэта без блату было нерэальна. Заробкі трохі пачалі падымаць, дык наш люд, не вельмі верачы ў лухту пра «развіты сацыялізм», тросся над кожнай капейчынай, клаў «на кніжку» з надзеяй калі-небудзь вырвацца з жабрацтва. Таму і не маглі бацькі прывезці з вялікага горада нічога, акрамя хлеба, які ўсяму галава і павагу да якога выхоўвалі з дзяцінства.

Мінула добрых дваццаць гадоў… Шмат у чым штодзённае жыццё змянілася. З'явіўся пэўны (няхай у большасці і нізкаякасны) набор тавараў у вясковых і гарадскіх крамах. Мабільныя тэлефоны, аўдыё- і відэатэхніка. Патрыманыя, але ўласныя аўто сёння амаль на кожным вясковым двары. Заробак вясковец атрымлівае ўжо па крэдытнай картцы, нібыта ў якой заморскай Аёве ці Шампані. Прагрэс, што і казаць! Аднак і на сёння знясілены дзесяцігоддзямі цяжкай працы вясковы люд, трапіўшы ў вялікі горад, перад ад'ездам дадому не можа сабе дазволіць амаль нічога акрамя некалькіх боханаў хлеба. Жабрацтва вёскі і сёння, як і дваццаць, і трыццаць, і семдзесят год таму, свеціць з усіх дзірак. А хіба можа быць інакш у краіне, дзе пасля адмены царом прыгону бальшавікі зноўку загналі сялян у рабства і па сёння ніхто з улад не рашыўся даць людзям зямлю і волю? Я, карэнны вясковец, ведаю, што кажу.

На вёсцы няма сёння ніякай эканомікі… І перад ёю ніхто даўно не ставіць задачу эканоміць, зарабляць грошы. Сёння калгас выконвае функцыю «сабесу», гэта значыць, падтырмлівае пацяху згасаючае сацыяльнае жыццё вёскі. Ні праводзіць у жыццё ўласныя планы, ні вольна распараджацца ўласнай прадукцыяй, грашыма, маёмасцю ўлада як учора, так і сёння не дазваляе.

Я люблю мінскі хлеб. Ён смачнейшы за наш, тутэйшы. Але, паважаныя землякі, я раблю і буду рабіць усё дзеля таго, каб нашы дзеці (а дасць Бог, і мы) перасталі яго купляць у вялікіх гарадах. Мы ў стане зрабіць наш горацкі, дрыбінскі, слуцкі, аршанскі хлеб самым смачным, а наша жыццё паўнакроўным і годным. А смак мінскага хлеба няхай застаецца ў памяці, як напамін аб мінулых цяжкіх часах…

Андрэй ЮРКОЎ.
г.Горкі.

# Чаму ў Луўры можна, а ў нашым Мастацкім — не?



На мінулым тыдні я наведала наш Мастацкі музей.

Па-першае, замест аднаго, мне прыйшлося набыць два ўваходныя квіткі амаль па 5000 руб. Чаму? Касірка адказала, што ў музеі некалькі экспазіцый: Пікаса-Лежэ, Слуцкія паясы і г.д. Амаль столькі каштуе ўваходны квіток у Луўр . Але гэта проста непараўнальна.

Па-другое, у нашым Мастацкім музэі нельга фатаграфаваць. Чаму? А ў Луўры — можна.

У той маленькай зале, дзе размясцілася экспзіцыя Пікаса-Лежэ, з наведвальнікаў была толькі я адна. У мяне склалася ўражанне, што ўся гэтая жанравая эстэтыка тутэйшым не патрэбна.

Па родзе сваёй прафесійнай дзейнасці ў апошні час бываю ў такой установе як Канстытуцыйны суд, памяшканні якога дэкарыраваны безгустоўнымі панно ўзроўня шапікаў у Ждановічах. Гэтыя два будынкі, Музэй і Канстітуцыйны Суд, знаходзяцца сусім побач, але такое адчуванне, што чыноўнікі, ад якіх залежыць выгляд дзяржаўнай ўстановы, вельмі далёкі і ад Музея, і ад эстэтыкі ўвогуле. На жаль, па такіх момантах, судзяць і пра наш беларускі, культурны ўзровень.

А гэтая экспазіцыя (Пікаса-Лежэ) зноў знікне ў запасніках, гэта ж не спаборніцтвы начной хакейнай лігі.

# Из музеев тоже воруют?




Недавно в Беларуси разразился скандал. Замминистра культуры Виктор Кураш сообщил, что по итогам инвентаризации музейных фондов, впервые проведенной в стране в прошлом году, обнаружена недостача 2743 экспонатов. Куда и как исчезает историческое наследие?

Петр Хотько объяснил, что списывание экспонатов — вовсе не прикрытие, как думают некоторые, для недобросовестных сотрудников музея.

«Все экспонаты — живые материалы, — делится Хотько. — Каждый предмет живет отмеренный ему срок. Посмотрите на свое платье: оно ведь тоже живет своей жизнью, тоже меняется, устаревает… Так же и наши экспонаты.

Версии о кражах из музеев Петр Сергеевич категорически отвергает.

«На моей практике такого не было и быть не может, — рассказывает Хотько. — Становится очень больно, когда говорят о кражах из музеев…»

Многими сейчас обсуждается не только тема необнаружения некоторых музейных экспонатов в Беларуси, но и то, что многие ценные белорусские произведения искусства находятся в иностранных коллекциях.

Адрас для допісаў:
211800 Глыбокае, а/с №2
e-mail: barmica@tut.by
http://www.belarda.org
Наклад: 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі грамадскіх арганізацый, якія спрычыніліся ды выдання бюлетэня.
Пад час укладання захоўваецца мова і правапіс арыгіналу.
Надрукавана на абсталяванні сяброў